*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 15 (452) 12 КРАСАВІКА 2000 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на другі квартал 2000 года. На працягу першага квартала кіраўнічыя структуры ТБМ асабліва актыўна працавалі ў Берасцейскай, Гомельскай і Віцебскай абласцях. Разам з арганізацыйнай працай там вялася і прапаганда газеты, і вынікі відавочныя. У цэлым па краіне падпіска вырасла на 241 асобнік, але пры наяўнасці больш пяці тысяч сяброў ТБМ яна складае ўсяго 1821 асобнік.

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 15 | 32 |
| Бяроза р.в. | 4 | 9 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | - |
| Бярэсце гор. | 16 | 46 |
| Ганцавічы р.в. | - | 2 |
| Драгічын р.в. | 5 | 3 |
| Жабінка р.в. | 1 | 1 |
| Іванава р.в. | - | 3 |
| Івацэвічы р.в. | 3 | 6 |
| Камянец р.в. | 34 | 28 |
| Кобрын гор. | 11 | 16 |
| Лунінец гор. | 1 | 7 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 3 |
| Маларыта р.в. | - | 2 |
| Пінск гор. | 12 | 64 |
| Пружаны р.в. | 4 | 7 |
| Столін р.в. | 1 | 5 |
| **Усяго:** | **109** | **234** |
| **Віцебская вобласць** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | 18 |
| Браслаў р.в. | 21 | 1 |
| Віцебск гор. | 26 | 29 |
| Віцебск РВПС | 1 | 3 |
| Верхнедзвінск р.в | 2 | 23 |
| Глыбокае р.в. | 8 | 10 |
| Гарадок р.в. | 1 | 3 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 3 |
| Дуброўна р.в. | 2 | 4 |
| Круляўшчызна | - | 1 |
| Ліёзна р.в. | 1 | 3 |
| Лепель р.в. | - | 1 |
| Міёры р.в. | 3 | 6 |
| Навапалацк гор. | 17 | 17 |
| Ворша гор. | 7 | 12 |
| Полацк гор. | 19 | 42 |
| Паставы р.в. | 2 | 4 |
| Расоны р.в. | - | 2 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 3 | 3 |
| Ушачы р.в. | 1 | 1 |
| Чашнікі р.в. | 3 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 9 | 14 |
| Шуміліна р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **134** | **205** |
| **Менская вобласць** | | |
| Беразіно р.в. | 2 | 5 |
| Барысаў гор. | 7 | 9 |
| Вілейка гор. | 2 | 8 |
| Валожын гор. | 9 | 20 |
| Дзяржынск р.в. | 3 | 6 |
| Жодзіна гор. | 25 | 10 |
| Клецк р.в. | 12 | 14 |
| Крупкі р.в. | 2 | 1 |
| Капыль р.в. | 1 | 1 |
| Лагойск р.в. | 4 | 4 |
| Любань р.в. | 4 | 4 |
| Менск гор. | 544 | 508 |
| Менск РВПС | 9 | 10 |
| Маладэчна гор. | 28 | 27 |
| Мядзель | 3 | 9 |
| Пухавічы РВПС | 12 | 21 |
| Нясвіж р.в. | 2 | 2 |
| Смалявічы р.в. | 14 | 2 |
| Слуцк гор. | 16 | 25 |
| Салігорск гор. | 6 | 6 |
| Ст.Дарогі р.в. | 11 | - |
| Стоўбцы р.в. | 61 | 9 |
| Узда р.в. | - | 3 |
| Чэрвень р.в. | 5 | 7 |
| Фаніпаль | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **783** | **712** |

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 1 | 1 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 34 | 32 |
| Гомель РВПС | - | - |
| Добруш р.в. | 2 | 8 |
| Ельск р.в. | - | 2 |
| Жыткавічы р.в. | 3 | 57 |
| Жлобін гор. | 6 | 8 |
| Калінкавічы гор. | 2 | 1 |
| Карма р.в. | - | 3 |
| Лельчыцы р.в. | - | 6 |
| Лоеў р.в. | 3 | 3 |
| Мазыр гор. | 5 | 11 |
| Акцябарскі р.в. | 6 | 1 |
| Нароўля р.в. | - | 1 |
| Петрыкаў р.в. | - | 3 |
| Рэчыца гор. | - | 3 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 3 | 3 |
| Хойнікі р.в. | - | 2 |
| Чачэрск р.в. | - | 3 |
| **Усяго:** | **67** | **151** |
| **Гарадзенская вобласць** | | |
| Бераставіца | 2 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 12 | 13 |
| Воранава р.в. | 5 | 7 |
| Горадня гор. | 123 | 119 |
| Горадня РВПС | 32 | 35 |
| Дзятлава р.в. | 18 | 11 |
| Зэльва р.в. | 4 | 4 |
| Іўе р.в. | 2 | 5 |
| Карэлічы р.в. | 4 | 4 |
| Масты р.в. | 35 | 10 |
| Наваградак гор. | 8 | 12 |
| Астравец р.в. | 4 | 6 |
| Ашмяны р.в. | 9 | 21 |
| Смаргонь гор. | 4 | 10 |
| Слонім гор. | 13 | 13 |
| Свіслач р.в. | 3 | 3 |
| Шчучын р.в. | 3 | 7 |
| Ліда | 18 | 58 |
| **Усяго:** | **299** | **340** |
| **Магілёўская вобласць** | | |
| Бабруйск гор. | 45 | 31 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в. | - | 1 |
| Быхаў р.в. | - | 2 |
| Глуск р.в. | 8 | - |
| Горкі гор. | 24 | 12 |
| Дрыбін р.в. | 6 | - |
| Кіраўск р.в. | - | 3 |
| Клічаў р.в. | - | 1 |
| Краснаполле р.в. | - | 1 |
| Крычаў | - | 2 |
| Клімавічы р.в. | 5 | 5 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 16 |
| Круглае р.в. | 8 | 22 |
| Мсціслаў р.в. | 16 | - |
| Магілёў гор. | 20 | 32 |
| Магілёў РВПС | - | 1 |
| Асіповічы гор. | 15 | 14 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | - |
| Хоцімск р.в. | 6 | 6 |
| Чэрыкаў р.в. | 19 | 29 |
| Чавусы р.в. | - | 1 |
| Шклоў р.в. | 25 | 3 |
| **Усяго:** | **199** | **181** |
| **Усяго па краіне** | **1580** | **1821** |

# Інфармацыя да ведама бацькоў

Тры месяцы таму пры Таварыстве беларускай мовы стварыўся Бацькоўскі камітэт г. Менска. У ім аб'ядналіся бацькі, дзеці якіх вучацца ў беларускіх класах і школах, а таксама дзеці якіх яшчэ не пайшлі ў школу, але бацькі загадзя рупяцца аб іх беларускамоўным навучанні. Увесь гэты час сябры Бацькоўскага камітэта актыўна кантактавалі з дырэктарамі многіх школаў, з Гарадскім упраўленні адукацыі г. Менска ў справе пашырэння беларускамоўнай адукацыі і надання ёй прэстыжнасці.

Разам з Таварыствам беларускай школы мы звярнуліся да ўпраўлення адукацыі з просьбай адкрыць у цэнтры Менска Гарадскую беларускую гімназію, бо тыя 11 беларускіх школаў (агульны лік школаў – 242) месцяцца па ўскраінах сталіцы.

У такіх буйных раёнах як "Усход", "Захад", "Чыжоўка", "Сухарава", "Малінаўка", ва ўсім цэнтры Менска ўздоўж праспекта Скарыны нават і блізка няма беларускіх школ. Пра якую роўнасць у выбары мовы навучання можна гаварыць у такіх умовах?

Школа, размешчаная у цэнтры горада ў раёне адной са станцыяў метро магла б задаволіць патрэбы многіх бацькоў.

На працягу нашай надоўгай дзейнасці мы адчулі пільную патрэбу мець банк звестак пра бацькоў, якія жадаюць, каб іх дзеці вучыліся ў школе, або выхоўваліся ў садку па-беларуску. Мэта стварэння такога банка звестак – пашырэнне беларускага школьніцтва, спрыянне стварэнню прэстыжных школаў, гуртаванне бацькоў, дапамога пры ўзнікненні праблемаў.

**Мы звяртаемся да вас, бацькі, якія хочуць навучаць свваіх дзяцей па-беларуску, альбо выхоўваць дзяцей у беларускамоўных садках, паведаміце пра сябе па тэлефоне ТБМ: 284-85-11, ці праз электронную пошту: tbm@tbm.linqvo.minsk.by. Таксама можна пісаць на адрас: 220005, Менск, вул. Румянцава 13, ТБМ.**

Асабліва просім патэлефанаваць тых бацькоў, якія павядуць дзяцей у школу сёлета.

**Акрамя гэтага мы ствараем банк звестак пра настаўнікаў, дырэктараў, завучаў, якія хацелі б выкладаць, ці ладзіць сваю школьную працу па-беларуску. Тэлефануйце, калі ласка, на той жа нумар.**

**У сувязі з пачаткам набору ў нулявыя і першыя класы нагадваем вам размяшчэнне беларускіх школаў у г. Менску.**

| Раён горада | Школа | Адрас | Асаблівасці школы |
|---|---|---|---|
| Заводскі | 68 | зав. Ахоцкі, 17 | Англ. мова з 1-га класа |
| Заводскі | Гімназія 11 | вул. Васняцова, 10 | Паглыбл. вывуч. англ. мовы+ням. мова |
| Кастрычніцкі | 11 | вул. Асаналіева, 18 | Агульна-эстэтычны ўхіл |
| Кастрычніцкі | 89 | вул. Пухавіцкая, 21 | Анг. мова з 1-га кл., фіз-мат з 8-га кл. |
| Ленінскі | 2 | пр. Ракасоўскага, 93 | Паглыбл. вывуч. фр. мовы+англ. мова |
| Маскоўскі | 60 | вул. К.Лібкнехта, 82 | Англ. мова з 1-га кл., фіз-мат з 8-га кл. |
| Партызанскі | 72 | вул. Халмагорская, 59 | |
| Першамайскі | Гімназія 9 | вул. Сядых, 10 | Агульна-эстэтычны ўхіл, англ. мова з 1-га кл. |
| Першамайскі | 190 | вул. Нікіфарава, 19 | Агульна[illegible]тычны ўхіл |
| Фрунзенскі | Гімназія 4 | вул. Кунцаўшчына, 18 | Анг.мова з [illegible] кл.+ням.,+польск. ці балгар. |
| Цэнтральны | Ліцэй 26 | вул. Камуністычная, 52 | Мастацкая ш[illegible]ла – ліцэй |

Акрамя таго ў шэрагу школаў існуюць шматгадовыя традыцыі беларускамоўнага навучання, хаця там ёсць як беларускія, так і рускія класы. Ніжэй пададзены спіс такіх школаў, а таксама садкоў, дзе існуюць беларускія групы.

| Раён горада | Школы | Дзіцячыя сады |
|---|---|---|
| Заводскі | 131, 210 | 202, 277, 443 |
| Кастрычніцкі | 1,3097,110,168 | 287, 456 |
| Ленінскі | 15,29,40,164 | 47, 299 |
| Маскоўскі | 3, 39, 192, 209, гімн.10 | 541 |
| Партызанскі | 86, 108 | 90 |
| Першамайскі | 70,84, 184, 191, 197 | 539 |
| Савецкі | 19, 23, 91 | - |
| Фрунзенскі | 38,81,96,167,180,211 | - |
| Цэнтральны | 37 | 187 |

**Таварыства беларускай мовы, Таварыства беларускай школы.**



## Новае выданне ТБМ

Таварыства беларускай мовы ажыццявіла новае выданне. На гэты раз выдадзены каляндарык у гонар 160-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча. Асаблівасцю каляндарыка з'яўляецца тое, што ён выдадзены на еўрапейскі навучальны год, з ліпеня 2000 года па чэрвень 2001 года, што вельмі зручна для настаўнікаў і студэнтаў.

## Ахвяраванні на ТБМ

**Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую падзяку ўдзельнікам мітынгу на Дзень Волі 25 сакавіка за дапамогу, аказаную ТБМ. Падчас маршу на дапамогу ТБМ і на выданне газеты "Наша слова" было сабрана 78 000 новых рублёў.**

Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі падтрымаць дзейнасць Таварыства. Сёння ТБМ праводзіць адно масавае мерапрыемства за другім. Усе яны патрабуюць вялікіх выдаткаў. Сакратарыят просіць дасылаць ахвяраванні на адрас: 220005, г. Менск, Румянцава, 13, або пералічаць на рахунак ТБМ № 3015212330014 у Гарадзкой аддзяленні Белбізнесбанка г. Менска, код 764. Кантактныя тэлефоны ў Менску 284-85-11,-213-43-52.

# Шануем Багушэвіча, нягледзячы на перашкоды

23 сакавіка 2000 года Акадэмічная рада Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны ладзіла вечарыну, прысвечаную 160-годдзю беларускага пісьменніка Францішка Багушэвіча. Прыйшлі супрацоўнікі НАН Беларусі: біёлагі, мовазнаўцы, фізікі, тэхнікі і іншыя. Вёў вечарыну старшыня рады. Са словам пра асобу паэта выступіў пісьменнік, аўтар і вядучы тэлечасопіса "Роднае слова" У. Содаль. Ён шмат расказаў пра мясціны, звязаныя з імем паэта, пра сапраўдную народную любоў сучаснікаў да песняра. Не абышоў увагаю ён і такое пытанне, як адносіны сённяшняга беларускага грамадства да ўшанавання памяці паэта. Цяжка прабівалася да маленькага чытача кніжка вершаў "Каму дудка паслушна" з серыі "Залаты ключык". У юбілейны год немагчыма знайсці творы Ф.Багушэвіча на паліцах кнігарняў.

Сябры таварыства прачыталі вершы паэта. Адбылася таксама своеасаблівая прэзентацыя твораў Генадзя Рыкоўскага, доктара біялагічных навук. Ён прачытаў уласныя вершы, прысвечаныя Ф. Багушэвічу, Беларусі, беларускай мове. Акрамя таго, праспяваў "Смык беларускі" і "Удава" Ф.Багушэвіча. У кантэксце біяграфіі паэта выступ Г. Рыкоўскага быў вельмі лагічным, паколькі абодва звязаны з Украінай: Багушэвіч там меў прытулак пасля паўстання 1863 г. і атрымаў юрыдычную адукацыю, а Рыкоўскі – украінец, які рэалізуе свае творчыя (паэтычныя і музычныя) здольнасці на мове другой сваёй радзімы – Беларусі.

Вечарына прайшла па-сямейнаму цёпла, нязмушана. Прысутныя пачулі шмат новага пра славутага земляка, вялікага будзіцеля беларускага народа, чыя справа актуальная і сёння. Разам з тым вечарына высветліла новае імя ў сучаснай беларускай паэзіі.

Аднак не абышлося без вялікай лыжкі дзёгцю. Вечарыну хацелі правесці ў невялікай зале Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Для гэтага Акадэмічнай радай ТБМ загадзя была пададзена заяўка ў адміністрацыю вышэйзгаданай установы на імя дырэктара Піліпенкі М.Ф.. На падставе адсутнасці спісу ўдзельнікаў акадэмічнай літаратурнай вечарыны кіраўніцтва ІМЭФ залу не дало, праігнараваўшы такім чынам права навукоўцаў годна адзначыць 160-годдзе беларускага пісьменніка, публіцыста, народнага абаронцы і заступніка Францішка Багушэвіча і ўнесці свой уклад у ажыццяўленне дзяржаўнай праграмы па святкаванні гэтай юбілейнай даты.

*Алена Анісім,*
*Язэп Стэпановіч.*

***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

*Як я струны смычком крану,*
*Як на скрыпачцы зайграю –*
*Буду звонка клікаць вясну,*
*Бо любоў у сэрцы маю!*
*Ёсць такое – Францішак – Імя...*
*Яго носьбіт уславіў слова...*
*Хай успыхне кастром галаўня,*
*Расквітнее родная мова!*

*Прыпеў:*
*Беларусь, Беларусь, светлы край...*
*Над хацінамі буслы лунаюць...*
*Тут прырода нібыта рай,*
*Дзе жывуць, спадзяюцца, чакаюць...*

*Можа нам усміхнецца пясняр*
*І разгладзіць спакойна вусы...*
*Гляне прамень з-за хмар...*
*Гонар маюць свой беларусы!*
*Не забыўшы каранёў,*
*Абдымаюць суседзяў мілых –*
*На ўсходзе і поўдні братоў...*
*У сяброўстве – вялікія сілы!*

*Прыпеў*

*Багушэвіч ізноў ідзе*
*Па Кушлянах хадой няспешнай...*
*З намі ў радасцях ён і ў бядзе*
*На зямлі Айчыны бязгрэшнай...*
*Помніць продкаў сваіх народ,*
*Тых, хто праўду ўзняў высока,*
*Каб растаў у душах лёд...*
*Помніць будзем сваіх прарокаў!*

*Генадзь Рыкоўскі.*

# ДАЗНАННІ

Пад такім загалоўкам (у даўнейшым значэнні гэтага слова) Гарадзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры толькі што апублікавала кнігу прафесара І.Я.Лепешава. у прадмове да кніжкі сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Ігар Жук піша, што гэта новая кніга І.Лепешава "яркая, каларытная, па-грамадзянску неўтаймоўная і тэмпераментная. Хоць і не ва ўсім бясспрэчная... І раней аўтар не абмяжоўваўся толькі лінгвістычнай тэматыкай, выходзіў за яе межы, укліняўся ў літаратуразнаўства і гісторыю... Цяпер жа, у гэтай кніжцы І. Лепешаў паўстае філолагам шырокай культуры, як чалавек, намагнічаны словам".




А гэта радкі з анатацыі да кнігі: "Роздум пра трагедыю Я. Купалы ў трыццатыя гады, вайну і маральнасць у творах В. Быкава, нетрадыцыйныя думкі пра А. С. Пушкіна... Адказы на гэтыя і іншыя надзённыя пытанні спрабуе знайсці аўтар кніжкі. Іншыя ж старонкі – пра нашу мову-гаротніцу, пра гвалт над ёю, ранейшы і цяперашні".

На некаторых старонках чытач сустрэне матэрыял, які друкаваўся ў "Нашым слове".

Кніга каштуе 200 рублёў (новымі). Для тых, хто хоча атрымаць гэту кнігу накладной платай, паведамляем адрас аўтара: 230009, Горадня, бульвар Ленінскага камсамолу, 30, кв.3.

# Свята Багушэвіча на Смаргоншчыне

*На Смаргоншчыне - радзіме славутага беларускага песняра Францішка Багушэвіча прайшло рэспубліканскае літаратурнае свята, прысвечанае 160-годдзю з дня яго нараджэння.*

*Прадстаўнічая дэлегацыя літаратараў і паэтаў з Менска, прадстаўнікі міністэрства культуры, творчай інтэлігенцыі сталіцы наведалі Жупраны і ўсклалі кветкі да помніка і на магілу паэта, пабывалі ў доме-музеі Францішка Багушэвіча ў Кушлянах.*





*На здымках:*

*1. Кветкі да помніка Францішка Багушэвіча.*

*2. Дом-музей паэта ў Кушлянах.*

*3. Памятная дошка на доме-музеі паэта ў Кушлянах.*

*Фота Аляксандра Дзідзевіча, БелТА.*




# "Элегія паўстання"

У Менску ў бібліятэцы імя Л. М. Талстога прайшоў вечар памяці нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага "Элегія паўстання". На вечарыне выступіў мастак Мікола Купава, гучалі вершы пра Кастуся Каліноўскага, барды спявалі свае песні, прысвечаныя славутаму змагару.

На здымку: спявае бард Эдуард Акулін.

Фота Яўгена Казюлі, БелТА.



# Гісторык – патрыёт.

5 сакавіка 2000 года трагічна абарвалася жыццё выдатнага гісторыка і пісьменніка Мікалая Іванавіча Ермаловіча, чалавека незвычайнага, апантанага даследчыка, які ўвайшоў у беларускую гістарыяграфію. Хутка будзе сорак дзён з дня яго смерці, і хочацца яшчэ раз расказаць пра яго.

Я даўно ведаў Міколу Ермаловіча. Працавалі разам у зале беларускай літаратуры Дзяржаўнай (цяпер Нацыянальнай) бібліятэкі. Часам у калідоры абменьваліся думкамі, разглядаючы цікавыя праблемы беларускай мінуўшчыны, знаходзілі шмат агульнага ў нашых поглядах.

Жыццё Міколы Ермаловіча было нялёгкім. Нарадзіўся ён у вёсцы Малыя Навасёлкі Менскага павета, цяпер гэта Дзяржынскі раён, у сямі кіламетрах на поўнач ад Койданава (Дзяржынска). Дарэчы, гэтая вёска ў XYIII і XIX стагоддзях (да паўстання 1863 г.) належала панам Кастравіцкім. Там на могілках у 1918 г. быў пахаваны беларускі пісьменнік і мастак Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі). Гадоў дваццаць таму, калі я ўзняў пытанне перад Саюзам пісьменнікаў Беларусі аб устаноўцы помніка Карусю Каганцу, Мікола Ермаловіч дапамагаў мне вызначыць дакладнае месца пахавання Каруся Каганца паводле апісання М. І. Каспяровіча. У 1988 г. помнік Карусю Каганцу быў пастаўлены.

Мікола Ермаловіч вучыўся ў Менскім педагагічным інстытуце. У вайне не ўдзельнічаў з-за слабога зроку. Працаваў у 1941-1943 гадах настаўнікам у Мардовіі. У канцы 1943 г. вярнуўся на Беларусь, працаваў у Суражскім раёне Віцебскай вобласці, потым завучам сярэдняй школы ў Дзяржынску. У 1947 г. скончыў Менскі педагагічны інстытут. Сем гадоў М. І. Ермаловіч працаваў старшым выкладчыкам беларускай літаратуры ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце, а ў 1955-1957 гадах загадчыкам кабінета Маладзечанскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў. Ён выйшаў на пенсію ў сувязі са значнай стратай зроку. Ад гэтага часу Мікола Ермаловіч штодзённа ездзіў электрычкамі ў Менск, у бібліятэку, і старанна пачаў даследаваць старажытныя летапісы і навуковую літаратуру, звязаную з праблемай старажытнай Беларусі.

Паступова Мікола Ермаловіч, абкладаючыся стогам кніг, што заўсёды ляжалі на століку, за якім ён працаваў у бібліятэцы, назапашваў веды, крытычна ацэньваў гістарычныя крыніцы. І яшчэ больш крытычна працы гісторыкаў, асабліва савецкіх гісторыкаў. Ён не быў сапсаваны працай у навуковых установах ці універсітэце, дзе панавалі ідэалагічныя ўстаноўкі камуністычнага партыйнага кіраўніцтва і дзе ствараліся патрэбныя рэжыму міфы ў гісторыі, каб апраўдаць дыктатуру кампартыйнай наменклатуры і падпарадкоўваць Беларусь імперскай Расіі (нават і ў варыянце



Савецкага Саюза). Таму погляды Міколы Ермаловіча рэзка адрозніваліся ад прац савецкіх сістэмных гісторыкаў у Беларусі, перш за ўсё тым, што гэта былі погляды беларускага патрыёта, а не імперскага падданага.

Ужо ў 1975-1976 гадах самавыдавецкім спосабам Мікола Ермаловіч выпускаў лісток "Гутаркі", у якім разглядаў пытанні старажытнай і сучаснай Беларусі. Ён абвяргаў погляды савецкіх афіцыйных гісторыкаў на гісторыю сярэднявечнай Беларусі. У барацьбе за праўдзівую гісторыю Бацькаўшчыны Мікола Ермаловіч праявіў сапраўдны волатаўскі дух, быў паслядоўны і бескампрамісны. Ён не пабаяўся пагрозаў і з боку афіцэраў КДБ, дзе яму няраз прапаноўвалі спыніць свае "пісанні" М.І.Ермаловіч успамінаў, як адзін з супрацоўнікаў КДБ сказаў яму: "Жаль, что я тебя тогда не знал", пашкадаваўшы, што цяпер не 1937-ы год.

Спробы Міколы Ермаловіча выдаць асобным вялікім артыкулам сваю першую прпацу ў 1980 годзе не ўдаліся. Зборнік "Спадчына", дзе быў гэты артыкул, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" не выйшаў. Яго забаранілі яшчэ да выхаду ў Цэнтральным Камітэце кампартыі Беларусі. Фрагменты працы былі, праўда, надрукаваныя ў адным з рэдкіх акадэмічных выданняў па археалогіі і адразу сустрэлі адпор з боку кансерватыўных беларускіх гісторыкаў з інстытута гісторыі. Акадэміі навук БССР, якія нават звярнуліся з пісьмом у ЦК КПБ з прапановай забараніць друкаваць працы М.Ермаловіча.

Аднак Мікола Ермаловіч паспяхова працягваў сваю працу. Ён выступаў перад слухачамі, якія цікавіліся беларускай гісторыяй у Менскім клубе "Спадчына". На яго выступы збіралася шмат людзей. Ён працягваў штодня ездзіць у Менск у бібліятэку і працаваў над сваёй кнігай. Ніхто не плаціў яму за гэта грошай, ніхто не вызначаў пяцігадовых планаў, не загадваў, як пісаць. Яму толькі перашкаджалі.

Але найвышэйшы суддзя – Час сказаў сваё слова. Ужо падчас перабудовы грамадства з вялікімі цяжкасцямі Міколе Ермаловічу ўдалося надрукаваць сваю працу з нетрадыцыйнымі, патрыятычнымі поглядамі на нашу гісторыю. У 1988 – 1989 гг. працу друкуе часопіс "Маладосць". М. І. Ермаловіч становіцца шырокавядомым чытачам на Беларусі і за яе межамі. Самастойнасць мыслення аўтара крытычнае стаўленне да прадстаўнікоў афіцыйнай гістарычнай навукі, ягоныя арыгінальныя высновы, падмацаваныя сістэмай доказаў, параўнанне фактаў з розных летапісаў і замежных хронік дазволілі М.Ермаловічу прапанаваць чытачам і прафесійным гісторыкам сваю канцэпцыю даўняй мінуўшчыны Беларусі.

У 1989 г. выйшла кніга М.Ермаловіча "Па слядах аднаго міфа" (у 1991 г. перавыдадзена зноў). Аднак і для яе выдання патрабаваліся ажно чатыры рэцэнзенты і навуковы рэдактар. Яна прынесла аўтару шырокую папулярнасць сярод моладзі, студэнтаў і ўвогуле чытачоў, якія цікавіліся "схаванай" раней гісторыяй Беларусі. Потым выйшла другая кніга "Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды (Мінск, 1990) і "Старажытная Беларусь Віленскі перыяд" (Мінск, 1994). Працаваць М.І.Ермаловічу станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Зрок пагаршаўся. Але і ў такім стане ён працягваў працаваць. Была скончана і здадзена ў выдавецтва новая кніга "Вялікае княства Літоўскае. Беларуская дзяржава", выдання якой ён так і не дачакаўся. Яна павінна выйсці ў гэтым годзе.

Мікола Ермаловіч у гісторыі Беларусі IX-XIУ стагоддзяў вылучыў тры перыяды: Полацкі (IX – сярэдзіна XIII ст.), Навагародскі (сярэдзіна XIII-пачатак XIУ ст.) і Віленскі (ад 1316 да 1385 г.). Паводле гэтай перыядызацыі ён пісаў свае кнігі. Ён сцвярджаў, што летапісная Літва знаходзілася зусім не там, дзе цяперашняя Летува, а менавіта ў Беларусі, у Верхнім Панямонні – на захад ад Менска і Слуцка да Навагрудка і паміж Маладзечнам і Слонімам. Гэты рэгіён з літоўскім (балцкім) насельніцтвам паступова абеларушваўся. Высновай нашага выдатнага і папулярнага гісторыка было навуковае палажэнне аб змешаным балцка – славянскім насельніцтве ў Беларусі, якое і склала беларускі этнас. Мікола Ермаловіч таксама цалкам абвергнуў міф, які панаваў у савецкай гістарыяграфіі аб заваёве Беларусі літоўцамі, які, дарэчы, падтрымлівалі не ўсе гісторыкі, у тым ліку і некалькі беларускіх. Я добра памятаю, як падчас навуковай дыскусіі на канферэнцыі ў Менску, прысвечанай юбілею другога Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 г., літоўскі акадэмік Ю.Юргініс усклікнуў: "Гэта не мы вас заваявалі, гэта вы нас заваявалі".

У першай палове 90-х гадоў наступіў зорны час для Міколы Ермаловіча. За свае працы Мікалай Іванавіч Ермаловіч атрымаў Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь; ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, пераехаў у Менск, атрымаўшы тут кватэру. Па-ранейшаму наведваў бібліятэку. Цяпер не трэба было ездзіць з Маладзечна, каб працаваць з рэдкімі кнігамі. Мікалай Іванавіч Ермаловіч часта выступаў перад школьнікамі як жывая легенда беларускай гістарыяграфіі.

Закончыў жыццёвы шлях таленавіты і апантаны даследчык, нястомны працаўнік беларускай навукі, адданы сваёй Бацькаўшчыне патрыёт. Ён адкрыў перспектыўны кірунак у даследваннях беларускай мінуўшчыны, даў магчымасць гісторыкам малодшага пакалення асвятляць падзеі беларускай гісторыі, пазбягаючы міфаў, асабліва назапашаных беларускімі савецкімі і расійскімі імперскімі гісторыкамі. Таму працы Мікалая Іванавіча Ермаловіча ўвайшлі ў скарбонку беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі.

*Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі.*

# Барысу Кіту -- 90



Барыс Кіт нарадзіўся ў 1910 г. у Пецярбургу. Пачатковую адукацыю атрымаў на радзіме – у Навагрудскай гімназіі. У 1933 г. скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта са ступенню магістра матэматыкі. Унёс уклад у распаўсюджанне прыродазнаўчых ведаў у Беларусі. С 1933 г. Барыс Кіт выкладаў матэматыку ў Беларускай гімназіі ў Вільні, а ў 1939 г. стаў яе дырэктарам. У 1940 г. заняў пасаду акругавага інспектара Баранавіцкай навучальнай акругі, арганізаваў пачатковыя і сярэднія школы ў Баранавіцкім, Слонімскім, Валожынскім і Ваўкавыскім раёнах, аднавіў Беларускую гімназію ў Навагрудку. У час гітлераўскай акупацыі, узначальваючы семінарыю і школу ў Паставах і Маладзечне, ён ратаваў беларускую моладзь ад вывазу ў Германію.

Б.Кіт быў актыўным удзельнікам беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі. Ён быў звязаны з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй, Таварыствам беларускай школы, Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой.

Сёння імя нашага суайчынніка добра вядома навуковай грамадскасці свету, дзякуючы яго працам па касмічнай праграме ЗША. З сярэдзіны 60-х гадоў Б. Кіт удзельнічаў у падрыхтоўцы першых амерыканскіх касмічных і ракетных сістэм. Як эксперт па астранаўтыцы ЗША ён прымаў удзел у міжнародных з'ездах, перамовах ЗША і СССР аб наладжванні паміж імі супрацоўніцтва ў галіне касмічных даследванняў.

Б. Кіт з'яўляецца аўтарам шматлікіх артыкулаў па тэарытычных пытаннях ракетнай тэхнікі і касмічных даследаванняў, першага ў гісторыі навукі падручніка па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве, кнігі "Гісторыя і сучасны стан савецкай астранаўтыкі", а таксама артыкулаў па гісторыі навукі і педагогіцы. У 1983 г. ён абараніў дысертацыю па гісторыі матэматыкі і атрымаў дыплом доктара філасофіі Рэгенсбургскага універсітэта.

Веды Барыса Кіта прызнаны і высока ацэнены ў свеце. Ён старэйшы сябра Амерыканскага астранаўтычнага таварыства, ганаровы сябра Брытанскага міжпланетнага таварыства, сябра Дырэктарыята нямецкага Астранаўтычнага Таварыства, сябра камітэта гісторыі Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі (Парыж). Яму нададзена званне заслужанага прафесара Мэрылэндскага універсітэта, Таварыства імя Германа Обэрта (ФРГ) узнагародзіла Барыса Кіта залатым медалём за заслугі ў галіне астранаўтыкі. Артыкулы пра Б.Кіта ёсць у многіх аўтарытэтных бібліяграфічных даведніках і энцыклапедыях.

Улічваючы ролю Барыса Кіта ў распаўсюджанні навуковых ведаў у Беларусі, яго ўклад у распрацоўку тэарэтычных пытанняў сусветнай астранаўтыкі, развіццё даследванняў па гісторыі навукі, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў выбрала прафесара Барыса Кіта сваім ганаровым сябрам і звярнулася да прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі з прапановай выбраць яго замежным сябрам Акадэміі навук Беларусі, а таксама запрасіць яго на адзін з бліжэйшых сходаў Акадэміі з дакладам па выбранай ім праблеме. З такой жа прапановай звярнуліся акадэмік Ю. Астроўскі і тады яшчэ прафесар, а зараз член - карэспандэнт НАН А. Майсеёнак. Але для беларускай акадэміі заслугі Барыса Кіта перад навукай падаліся малаватымі. Ён быў усяго абраны ганаровым доктарам навук Гарадзенскага універсітэта.

*Яраслаў Грынькевіч.*

## Данута Бічэль-Загнетава адказвае на пытанні "Нашага слова"

31 сакавіка адбылася сустрэча з гарадзенскай паэтэсай Данутай Бічэль-Загнетавай, якую ладзіў кніжны клуб ТБМ.

Паэтэса расказвала прысутным пра сябе, сваіх бацькоў, пра цікавых людзей сустрэтых на жыццёвым шляху. Такіх як Ларыса Геніюш, Зоська Верас, Уладзімір Караткевіч.

Данута Янаўна прачытала напэўна не адзін дзесятак сваіх цудоўных вершаў, такіх як "1999", "Вартаўніца", "Конік", "Мой пляц", "Максіму", верш пра Чачню, верш прысвечаны Уладзіміру Караткевічу і іншыя.

Шмат было пытанняў і адказаў на іх. У канцы сустрэчы выстраілася немалая чарга па паэтычныя зборнікі паэтэсы і аўтографы.

Данута Янаўна пагадзілася даць інтэрвію для "НС".

-- ***Скажыце калі ласка колькі слоў аб месцы, дзе вы нарадзіліся.***

-- Нарадзілася ў 1937 г. на Лідчыне ў вёсцы Біскупцы, тады яшчэ пад Польшчай. Вёска была каталіцкай, касцёл у 1943 г. спалілі партызаны.

-- ***Якія ў вас захаваліся ўспаміны з дзяцінства?***

-- Успаміны аб дзяцінстве звязаныя ў асноўным з бацькамі. Мама і тата першыя ў вёсцы ажаніліся па каханні.

Тры гады, да трэцяга класа я была пастушкай, пасвіла жывёлу.

Бацька ў свой час быў у войску Пілсудскага. Ён распавядаў, калі яны былі ў шыхце, ён стаяў апошнім, бо быў малога росту. Пілсудскі спыніўся насупраць яго і паправіў на ім амуніцыю. Вось такое ў нас было сямейнае паданне.

Дзядзька Мефоды не быў у калгасе ўсё жыццё з прынцыпу, хоць было і вельмі цяжка.

-- ***Вашы дзеці?***

-- У мяне ёсць дачка Вікторыя, сын Валеры, а таксама ўнукі Стась, Антон, Андрэй.

-- ***Ці памятаеце свой першы верш і якія вашы улюблёныя вершы?***

Першы верш называўся "Роднае слова", недзе ў 1957 годзе ён быў надрукаваны ў ЛіМе.

-- Мае улюблёныя вершы гэта "Сініца" і "Конік".

-- ***Што б вы хацелі пажадаць ТБМу?***

-- Я ўвогуле незадаволена, каб беларуская мова трымалася на ўзроўні таварыства, суполак. Лепей каб беларусы размаўлялі па беларуску і ў такіх таварыствах не было б патрэбы.

-- ***Ці лічыце вы сябе шчаслівым чалавекам?***

-- Безумоўна.

*Гутарыў Алесь Гурыновіч.*

## Давайце спяваць па-беларуску

### Марш свабоды

**Музыка і словы Мірона Вольнага**

D Em
Гра - ма - до - ю і -дзем мы з сі-вой даў- ні-ны, Бе - ла-
A D
-ру - сы, за леп-ша - ю до-ля-ю. Не згу - бі - лі мы сі - лы і
Em E A F#
душ чы -сці- ні І лю - бы - я ня - го - ды а - до -ле -ем! Бе- ла-
Hm Em A
-русь, сва - бо - ду зда-бы - вай, Бо-жым шля - хам кроч на-пе-рад
D Em A D
сме - ла! Дух гар -туй на- род-ны і яд - най Нас пад
Em A D
сця - гам бел- чыр -во - на - бе - лым! Каб за-

Грамадою ідзем мы з сівой даўніны,
Беларусы, за лепшаю доляю.
Не згубілі мы сілы і душ чысціні
І любыя нягоды адолеем!

Прыпеў:
Беларусь, свабоду здабывай,
Божым шляхам кроч напрад смела!
Дух гартуй народны і яднай
Нас пад сцягам бел-чырвона-белым!

Каб заможна зажыў беларус гаспадар,
Каб спрадвечныя мары збываліся,
Мы прынесім сябе на народны алтар,
Супраць цемры лукавай змагаемся.
Прыпеў.

Гэй, за лёс! Гэй, за Край паўставайма гарой!
Свята праўды наблізма належнае!
Хай абудзіцца ў кожным святы і герой,
Хай жыве Беларусь незалежная!
Прыпеў.

## Лепшы спектакль года

Спектакль "Чорная нявеста" па п'есе Аляксея Дударава, пастаўлены на сцэне Беларускага драматычнага тэатра імя Я. Коласа ў Віцебску рэжысёрам Віталем Баркоўскім, прызнаны камісіяй Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь лепшым спектаклем года.



На здымку: сцэна са спектакля "Чорная нявеста". Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.

## "Іспанская партыя"

У Менску, у музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адбылася мастацкая акцыя "Іспанская партыя". Экспазіцыя аб'ядноўвае разнастайныя варыянты асэнсавання "іспанскай тэмы" сучаснымі беларускімі мастакамі, якія базіруюцца на ўздзеенні вялікіх іспанцаў Эль Грэка, Веласкеса, Гойі, Пікасо і іншых.



***На здымку:*** "Сны Андалузіі"-- фрагмент п'есы "Ерма" паэта Гарсія Лоркі ў выкананні акцёраў віцебскага тэатра імя Я. Коласа.

Фота Яўгена Казюлі, БелТА.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 10. 04. 2000 г.
Наклад 3100 асобнікаў. Замова № 987
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 134 руб., 3 мес.- 402 руб.
***Кошт у розніцу:*** 30 руб.